# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№4 (215)

красавік 2020



Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”

## У НУМАРЫ:

### Дыяспара ахвяравала медыкам Беларусі амаль 50 000 даляраў

Каардынатар кампаніі “ByCovid19” Андрэй Стрыжак просіць беларускую дыяспару не спыняць дапамогі. Прыводзім тэкст ягонага звароту цалкам.

Старонка 3

### Як вучацца беларускай мове ліцэісты ў Польшчы?

Як ідзе навучанне беларускай мове на Падляшшы? З якімі праблемамі сутыкаюцца настаўнікі? Якімі падручнікамі карыстаюцца школы? З якімі беларускімі пісьменнікамі знаёмяцца дзеці беларусаў у Польшчы?

Старонка 4

### “Будзьма!” перадала медыцынскія маскі дому-інтэрнату

Кампанія “Будзьма беларусамі!” не можа заставацца ў баку ў такі няпросты час і імкнецца аказаць пасільную дапамогу адрасна.

Старонка 2

Ва ўмовах пандэміі COVID-19 Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” працягвае сваю працу, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!

#будзьмадома



Галерэя “Ў” аддала свае памяшканні для штаба ініцыятыўнай групы ByCovid19, якая займаецца зборамі для медыкаў Беларусі.

Таня Капітонава / Belsat.eu

# ЗВАРОТ ЗБС “БАЦЬКАЎШЧЫНА” З НАГОДЫ ПАНДЭМІІ COVID-19

Дарагія браты-беларусы!

Чалавецтва сутыкнулася з імгненным і нечаканым выклікам, сур’ёзнасць якога можна ацаніць па тых захадах, якія для яго пераадолення робяць найбольш развітыя краіны свету. Гаворка пра вірус COVID-19, які на працягу вось ужо некалькіх месяцаў штодня забірае тысячы жыццяў.

Мы ведаем, што вы заўсёды былі неабыякавыя да таго, што адбываецца на Радзіме, уважліва сочыце за падзеямі ў Беларусі. Цяпер да нашай краіны скіравана міжнародная ўвага з прычыны незвычайнага падыходу ўладаў да вырашэння праблемы каранавірусу, ігнаравання досведу краін, якія сутыкнуліся з пандэміяй раней. Разам з гэтым відавочна, што ўзровень забяспечанасці медыкаў матэрыяламі, неабходнымі для якаснага і бяспечнага выканання сваёй працы, непараўнальны з тымі краінамі, якія дазволілі сабе адносна мяккія рэжымы абмежавання перасоўвання грамадзян. Кажучы проста, іх вострa не хапае.

Беларускія медыкі сёння – сапраўдныя героі. Сярод іх ужо ёсць загінулыя. Мы верым, што грамадства ўганаруе іх належным чынам пасля сканчэння эпідэміі. Але дапамога ў змаганні з каранавірусам, суўдзел ў ратаванні чалавечых жыццяў нам патрэбныя сёння.

Дапамога матэрыяламі, грашыма, маральная падтрымка, спробы паўплываць на меркаванне адказных асоб і ведамстваў – мы верым, што ў барацьбе за жыцці беларусаў годныя любыя з гэтых сродкаў. Актывісты, якія распачалі дабрачынны збор любой дапамогі і стварылі дзеля гэтага цэнтралізаваны сайт www.bycovid19.com, сцвярджаюць, што маюць магчымасць перапраўляць сабраныя матэрыялы ў Беларусь нават нягледзячы на закрытыя межы.

Мы ведаем, што многія з вас ужо аказалі дапамогу, ахвяруючы сродкі на дабрачынныя рахункі, і вельмі цэнім гэта. У некаторых краінах існуюць групы падтрымкі беларусаў замежжа, што толькі сведчыць пра нашу здольнасць яднацца перад сапраўднай пагрозай. Усведамляючы, што многія з вас у сваіх краінах маюць такую самую праблему з гэтай новай хваробай, заклікаем вас усё ж такі не заставацца ўбаку і дапамагчы сваёй Радзіме.

Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# ВЯЧАСЛАЎ БОРТНІК АТРЫМАЎ ПРЭЗІДЭНЦКУЮ ЎЗНАГАРОДУ ЗА ДОБРААХВОТНУЮ ПРАЦУ

21 красавіка беларуска-амерыканскі грамадскі дзеяч, сябра Прэзідыуму Рады БНР і сябра Рады "Бацькаўшчыны" Вячаслаў Бортнік атрымаў Прэзідэнцкую срэбраную ўзнагароду за добраахвотную працу – President's Volunteer Service Award (Silver).

Гэта грамадзянская ўзнагарода, якую штогод уручае Прэзідэнт ЗША, была заснаваная выканаўчым распараджэннем Джорджа Буша ў 2003 годзе дзеля ўшанавання добраахвотнікаў за сотні гадзін валанцёрскай працы.

"Для мяне валанцёрства заўсёды было ладам жыцця. Шмат рабіў бясплатна і ў Беларусі, і калі пераехаў у ЗША, – распавядае Вячаслаў. – Каб атрымаць срэбра, трэба было мець 250-499 гадзін добраахвотнай працы ў мінулым годзе. Насамрэч, у мяне набралася каля 800, то бок на золата. Але ж атэстацыйная ўстанова маю праваабарончую працу ў Amnesty International USA не залічыла. Залічылі менавіта працу ў Беларуска-Амерыканскім Задзіночанні (БАЗА), а таксама ў некаторых іншых мясцовых арганізацыях. Дык атрымаў срэбра".

Узнагароду адмініструе Савет прэзідэнта па службе і грамадзянскім удзеле. Узнагарода можа быць уручана прыватным асобам, сем'ям і арганізацыям, якія знаходзяцца па ўсёй тэрыторыі ЗША. У залежнасці ад колькасці выкананых валанцёрскіх гадзін, людзі могуць атрымаць бронзу, срэбра, золата або прэмію Прэзідэнта "Заклік да службы" (за валанцёрскую службу цягам жыцця).




ЗБС "Бацькаўшчына" шчыра віншуе спадара Вячаслава Бортніка з заслужанай узнагародай! Ведаючы Вас і Ваш падыход да кожнай справы, мы не сумняемся, што яшчэ шмат узнагарод і прэмій Вас не абмінуць.

Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

навіны "Будзьма беларусамі!"

# "БУДЗЬМА!" ПЕРАДАЛА ТЫСЯЧУ МЕДЫЦЫНСКІХ МАСАК ЧЭРВЕНЬСКАМУ ДОМУ-ІНТЭРНАТУ

Кампанія "Будзьма беларусамі!" не можа заставацца ў баку ў такі няпросты час і імкнецца аказаць пасільную дапамогу адрасна. У першую чаргу тым, хто мае ў ёй вялікую патрэбу і не можа паклапаціцца пра сябе сам.



7 траўня кампанія "Будзьма беларусамі!" і крама беларускіх адметнасцяў budzma-krama.by перадалі тысячу аднаразовых медыцынскіх масак Чэрвеньскаму дому-інтэрнату для дзяцей-інвалідаў і маладых інвалідаў з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Дзеці і дарослыя, якія пражываюць у падобнага кшталту ўстановах, не могуць трымаць сацыяльную дыстанцыю.

Акрамя масак, і Чэрвеньскі дом-інтэрнат, і многія іншыя дамы-інтэрнаты, маюць патрэбу ў аднаразавых касцюмах для супрацоўнікаў. Заклікаем усіх неабыякавых падтрымаць гэтыя ўстановы.

Дапамагчы можна некалькімі спосабамі:

– перадаць аданаразовыя касцюмы, маскі і іншыя неабходныя сродкі абароны непасрэдна ў дамы-інтэрнаты;

– пералічыць грошы праз дабрачынны фонд "Добра тут", які займаецца падтрымкай дамоў-інтэрнатаў для людзей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця;

– далучыцца да дабрачыннай акцыі "Дапаможам разам" ад крамы budzma-krama.by.

Нагадаем, паўдзельнічаць у гэтай акцыі вельмі проста. У перыяд да 14 мая выбірайце і набывайце адметныя тавары з беларускім характарам ад budzma-krama.by для сябе ці ў падарунак, а мы пералічым 50% ад сумы Вашай пакупкі Чэрвеньскаму дому-інтэрнату.

Будзьма неабыякавымі! Дапаможам разам тым, каму гэта зараз сапраўды патрэбна!

budzma.by




## "БАЦЬКАЎШЧЫНА" І САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ ЗАКЛІКАЮЦЬ УЛАДЫ АДМЯНІЦЬ ПУБЛІЧНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" злучае ў сваіх шэрагах прадстаўнікоў беларускай дыяспары з больш чым дваццаці краін свету, людзей самых розных прафесій і поглядаў, паяднаных любоўю да сваёй Радзімы і клопатам пра яе. Саюз беларускіх пісьменнікаў прадстаўляе меркаванне беларускай нацыянальнай культурнай інтэлігенцыі, стваральнікаў сучаснай беларускай культуры. Мы выказваем сваю глыбокую занепакоенасць працэсамі, што зараз адбываюцца ў краіне – высокай хуткасцю распаўсюджання захворвання COVID-19 і адсутнасцю эфектыўных захадаў па супрацьстаянні вірусу з боку беларускіх уладаў.

Распаўсюджанне захворвання ў нашай краіне выявіла востры недахоп сродкаў і матэрыялаў, неабходных медыкам для якаснага і бяспечнага выканання сваёй працы. Невыразная пазіцыя беларускіх уладаў, якія дапускаюць сумяшчэнне сур'ёзных супрацьэпідэмічных захадаў з паблажлівай і легкадумнай рыторыкай адносна небяспекі хваробы, змусіла нас звярнуцца са зваротам аб пасільнай дапамозе да сусветнай беларускай грамады, якая адгукнулася, нягледзячы на тое, што таксама ў сваёй большасці знаходзіцца ў падобных складаных варунках. Дзясяткі грамадскіх ініцыятыў па зборы дапамогі шпіталям і медыкам дзейнічаюць і ў самой Беларусі. Але асноўная роля ў барацьбе з гэтай сусветнай бядою павінна належаць дзяржаве. Досвед краін, у якіх атрымалася пераламаць дынаміку распаўсюду віруса, а таксама матэрыялы адмыслова складзеных для Беларусі парад Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ), дазваляюць нам меркаваць, што адным з галоўных чыннікаў мусіць быць адмена ўсіх масавых мерапрыемстваў, інфармаванне грамадзян аб небяспецы, якую нясе COVID-19, а таксама выкананне санітарных патрабаванняў і сацыяльнага дыстанцыявання.

Мы ведаем, што шмат арганізацый беларускай грамадзянскай супольнасці і бізнес-структур, дбаючы пра здароўе сваіх супрацоўнікаў, перайшлі на дыстанцыйную працу, не чакаючы адпаведных захадаў з боку дзяржавы. Самая галоўная каштоўнасць нашай краіны – гэта людзі. Клопат пра іх жыццё і здароўе – наш агульны прыярытэт.

А таму мы звяртаемся да беларускіх уладаў з патрабаваннем адмяніць правядзенне параду 9 мая ў сталіцы Беларусі г. Мінску. Мы разумеем, што 75-годдзе Перамогі – важная для беларускай дзяржавы падзея, але святкаванне юбілею не павінна весці да новых ахвяр сярод беларусаў у мірны час. Сродкі, якія могуць быць затрачаныя на гэтае святкаванне, варта накіраваць на нарошчванне рэсурсу медыцынскіх устаноў, набыццё матэрыялаў і сродкаў для барацьбы з пандэміяй, а таксама на падтрымку прадстаўнікоў уразлівых да каранавірусу груп грамадзян.

Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына",
Сакратарыят
ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"

навіны

# ДЫЯСПАРА АХВЯРАВАЛА МЕДЫКАМ БЕЛАРУСІ АМАЛЬ 50 000 ДАЛЯРАЎ

Каардынатар кампаніі "ByCovid19" Андрэй Стрыжак просіць беларускую дыяспару не спыняць дапамогі. Прыводзім тэкст ягонага звароту цалкам.

Пандэмічны крызіс ахапіў увесь свет, краіны замыкаюцца, дбаюць пра ўласныя інтарэсы і, як ніколі, сусветнае адзінства цывілізаваных нацый пад пагрозай. У гэтых умовах вельмі важна захоўваць еднасць беларусаў незалежна ад месца пражывання.

Нашая краіна аказалася пад асабліва моцным ударам пандэміі з розных прычын, але мэта гэтага звароту – не ацэнка дзеянняў улады, а просьба да вас, дарагія нашы замежныя суайчыннікі, ад імя сотняў валанцёраў Беларусі, якія аб'ядналіся ў велізарны дабравольны рух дзеля абароны нашых медыкаў, каб яны маглі эфектыўна змагацца з пандэміяй каранавіруса і ратаваць жыцці людзей.

Наша кааліцыя BYCOVID19 аб'яднала найбуйнейшыя валанцёрскія структуры, дабрачынную медыяплатформу, ініцыятывы інжынераў і швачак, сотні і сотні людзей, якія збіраюць грошы, дастаюць з-пад зямлі абарончыя сродкі для нашых медыкаў, дастаўляюць іх у шпіталі па ўсёй краіне, на ўласныя сродкі купляюць і ўласнымі рукамі робяць абарончыя сродкі на 3d прынтарах і швейных машынках.

Больш за два тыдні нашай працы прынеслі плён, больш за 27 000 рэспіратараў, больш за 6000 абарончых шчыткоў і тысячы адзінак іншых сродкаў абароны для нашых медыкаў, якія змагаюцца з пандэміяй, перададзеныя ў шпіталі краіны. Наша ініцыятыва таксама скупляе і перадае ў шпіталі кіслародныя канцэнтратары, пульсаксіметры, бескантактныя тэрмометры і іншае абсталяванне.

Агульная сума сабраных грошай – больш за 135 000 даляраў (на момант падрыхтоўкі нумару да друку – 250 000 даляраў. – *Заўв. ЗБС "Бацькаўшчына"*), з якіх нашая дыяспара ахвяравала медыкам Беларусі амаль 20 000 даляраў (на момант падрыхтоўкі нумару да друку – амаль 50 000 даляраў. – *Заўв. ЗБС "Бацькаўшчына"*). Гэта вялікія грошы і добрая дапамога, якую мы вельмі цэнім.

Мы пастаянна маніторым сітуацыю, трымаем прамы кантакт з лякарнямі, і зараз важна закупіць яшчэ 100 000 рэспіратараў для нашых медыкаў, каб абараніць іх, а гэты тавар – у вялікім дэфіцыце. На закупку і дастаўку ў Беларусь такой буйной партыі нам трэба сабраць не менш за 300 000 даляраў.



Просім далучацца да годнай справы абароны нашых медыкаў, а значыць і ратавання жыццяў беларусаў ва ўмовах пандэміі каранавіруса.

Падрабязней пра ход кампаніі можна чытаць на старонцы нашай кампаніі "ByCovid19 – помощь врачам в Беларуси" і на маёй асабістай старонцы ў Facebook, а таксама на нашым сайце: https://bycovid19.com/

Рэквізіты для пераводу грошай з замежжа па спасылцы: https://bit.ly/3egIEdH

Дзякуй вашым шчырым сэрцам ад валанцёраў кампаніі BYCOVID19 і тысяч беларускіх лекараў, якія атрымалі і атрымліваюць вашую дапамогу.

Працуем далей!

**Паводле Андрэя Стрыжака**

# БЕЛАРУСЫ КАНАДЫ САБРАЛІ 7000 КАНАДСКІХ ДАЛЯРАЎ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ШПІТАЛЯЎ

Усе сабраныя Згуртаваннем беларусаў Канады сродкі пойдуць на падтрымку ініцыятыўнай групы "ByCovid19", якая арганізавала тэрміновы збор для дапамогі медыкам у Беларусі.

Як паведаміла старшыня Згуртавання беларусаў Канады Алена Лявончанка, сродкі ўжо ў дарозе ў Беларусь.

"Ужо зроблены банкаўскі перавод актывістам "Bycovid19", на гэтыя грошы будуць закупленыя бескантактныя тэрмометры і пульсаксіметры для беларускіх шпіталяў. Кампанія працягваецца — разам мы пераможам!" — напісала яна на сваёй старонцы ў Фэйсбуку.

Дарэчы, Алена Лявончанка, навуковец, якая ў 2008-2011 гадах займалася даследаваннямі структурнай біялогіі каранавірусаў ва Універсітэце Таронта (UofT).

Ініцыятыўная група "ByCovid19" шукае і набывае аднаразовыя сродкі індывідуальнай абароны, кіслародныя канцэтратары. У Нямеччыне пачатая закупка бескантактных тэрмометраў і пульсаксіметраў для бальніц Беларусі.

У некаторыя шпіталі Мінска і Віцебска набыты пральныя машыны, каб была магчымасць праць халаты на працы і не адвозіць іх дадому. Група вядзе пошук валанцёраў і фінансавых сродкаў, кантакты з бізнесамі, якія могуць аказаць дапамогу.

**svaboda.org**




### У ФРАНЦЫІ РАСПАЧАЛІ ЗБОР ГРОШАЙ ДЛЯ ДАПАМОГІ БЕЛАРУСКІМ МЕДЫКАМ

Культурная Асацыяцыя Франка-Беларускае Сяброўства (Association Culturelle Amitie Franco-Bielorusse) абвясціла збор сродкаў для дапамогі беларускім лекарам у змаганні з каранавірусам праз краўдфандынгавую платформу HelloAsso.

На сёння сабрана ўжо амаль 2000 еўра. Кожны можа ў любы момант далучыцца да дабрачыннай акцыі.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

# 20-ГОДДЗЕ З ЧАСУ ЗАСНАВАННЯ АДЗНАЧЫЛА БЕЛАРУСКАЯ СУПОЛКА "СЯБРЫНА" З АЛУШТЫ

"Беларусь у маім сэрцы" – пад такою назвай праходзіла святочная імпрэза ў гарадскім Доме творчасці "Подмосковье". Сустрэчу адкрылі вершамі Рыгора Барадуліна кіраўнік суполкі Віталь Бартохаў і Ірына Маркава – вядучыя імпрэзы.

"Сябрына" прымала віншаванні, падарункі ад гасцей: кіраўніцы адміністрацыі горада Галіны Агнёвай, кіраўніка аддзела міжнацыянальных адносін Дзяржкамітэта па справах міжнацыянальных адносін Шаміра Хубларана, дырэктаркі Дома дружбы народаў Ларысы Сакірскай, старшыні Рэспубліканскай нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Крыма" Рамана Чэгрынца. Шмат сардэчных слоў гучала ад кіраўнікоў армянскай і балгарскай, малдаўскай і крымска-татарскай, азербайджанскай і рускай абшчын Алушты, ад кіраўніка аддзела міжнацыянальных адносін адміністрацыі горада Эміля Меджытава, старшыні ўкраінскай абшчыны Крыма Анастасіі Грыдчынай.

І гучалі са сцэны праз усе некалькі гадзінаў святочнай дзеі музычныя падарункі. А на пачатку праграмы падарылі гасцям свае песні гаспадары сустрэчы.

**Паводле Віталя Бартохава, "Голас Радзімы"**

адукацыя

# ЯК ВУЧАЦЦА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ ЛІЦЭІСТЫ Ў ПОЛЬШЧЫ?

Як ідзе навучанне беларускай мове на Падляшшы? З якімі праблемамі сутыкаюцца настаўнікі? Якімі падручнікамі карыстаюцца школы? З якімі беларускімі пісьменнікамі знаёмяцца дзеці беларусаў у Польшчы?

Размаўляем з Янам Карчэўскім, настаўнікам беларускай мовы ў II Агульнаадукацыйным ліцэі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. Ян Карчэўскі – аўтар падручнікаў па беларускай літаратуры для ліцэйскага ўзроўню навучання ў Польшчы, адданы справе беларускай асветы актывіст беларускага жыцця – у Гайнаўцы і ўвогуле на Падляшшы.

**– Ян, скажы, колькі часу ты ўжо працуеш настаўнікам? Ты ўвесь час вучыў беларускай мове ў гайнаўскім ліцэі ці працаваў і ў іншых месцах?**

– Ужо мінула больш як 30 гадоў, як я настаўнічаю. Працу я пачаў 1 верасня 1987-га ў пачатковай школе ў Чыжах. Там я адпрацаваў 9 гадоў, а потым надарылася нагода перайсці на працу ў гайнаўскім беларускім ліцэі. Не хаваю, што маёй марай было вучыць беларускай мове ў ліцэі, які я раней сам закончыў. Пасля ліцэя я закончыў беларускую філалогію ў Варшаўскім універсітэце і вярнуўся працаваць на бацькаўшчыну. У Чыжах я вучыў наогул беларускай мове, але здаралася таксама весці ўрокі польскай мовы, гісторыі ці фізкультуры. У Гайнаўцы я вучу выключна беларускай мове.

**– Калі ты перайшоў у Гайнаўку, то, можа, вучыў там і Катажыну Бонду, вядомую ва ўсёй Польшчы аўтарку дэтэктываў ды, мабыць, самую славутую выпускніцу вашага ліцэя?**

– Мы размінуліся. Яна закончыла наш ліцэй у чэрвені 1996 года, а я пачаў там працаваць у верасні таго года.

**– Раскажы крыху пра тое, як цяпер табе працуецца ва ўмовах эпідэміі каранавіруса, калі вучні не ходзяць на заняткі ў школу.**

– Цяпер адбываюцца заняткі так званага дыстанцыйнага навучання. У нас дзве формы гэтых заняткаў. У першай форме выкарыстоўваем электронны дзённік. Я пасылаю вучням тэкст, фармулюю заданне, звязанае з тэкстам, і пад канец урока вучні прысылаюць мне тое, што яны з гэтым заданнем зрабілі. Гэта калі казаць агульна. Другая форма – урокі ў фармаце відэаканферэнцыі. Мы ўсе, настаўнік і вучні, бачым адны адных на камп'ютарах. Гэта больш непасрэдная форма навучання і ўзаемадзеяння паміж настаўнікам і вучнямі. Зразумела, што ні першая, ні другая форма такога дыстанцыйнага навучання не кампенсуе цалкам кантакту настаўніка з вучнямі ў класе, тым больш калі мы гаворым пра навучанне беларускай ці нейкай іншай мовы. Але пераважная большасць вучняў ставіцца да гэтай формы адказна, і яны выконваюць тыя заданні, якія атрымліваюць.




Ян Карчэўскі, настаўнік беларускай мовы ў II Агульнаадукацыйным ліцэі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы.

**– Якой камп'ютарнай праграмай вы карыстаецеся на такіх відэаўроках?**

– Zoom.

**– І ты, скажам, бачыш усіх сваіх вучняў, нават калі іх 25?**

– (Смяецца.) Калі 25, дык бачу ўсіх. Калі болей, дык трэба там змяняць некаторыя наладкі камп'ютара, бо ўсе не месцяцца на экране... Варта тут яшчэ адзначыць, што тыя падручнікі па беларускай мове, якія мы выкарыстоўваем цяпер, Міністэрства адукацыі зрабіла даступнымі ў электроннай версіі ў інтэрнэце, і гэта вялікая для нас палёгка ў час эпідэміі. Не ўсе нашы вучні маюць папяровыя падручнікі, бо такіх нам не заўсёды хапае ў школе...

**– А ці лічыў ты, колькі выпускнікоў беларускага ліцэю ў Гайнаўцы, так сказаць, "прайшло праз твае рукі"?**

– Не лічыў. Але можна прыкінуць. Вось я працую ў ліцэі 24 гады. Раней у нас бывала і каля 120 выпускнікоў штогод, цяпер каля 70...

**– Дзве з паловай тысячы, больш-менш... Ты адзіны настаўнік беларускай мовы ў ліцэі?**

– Не, у нас дырэктар Ігар Лукашук – беларусіст, і ёсць яшчэ настаўніца беларускай мовы Ганна Каліноўская, малодшая мая калега, якая працуе на поўным штаце, як і я.

**– Беларуская мова, як і мова кожнай іншай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, з фармальнага гледзішча факультатыўная ў школе. А як у вашым ліцэі – ёсць вучні, якія яе не вывучаюць?**

– Не, у нас беларускай мове вучацца ўсе вучні. Яны гэта робяць свядома, паколькі ім і іхным бацькам на пачатку паведамляем, што ў нашай школе ўсе вывучаюць беларускую мову. Калі яны прыходзяць у нашу школу, значыць, яны пагаджаюцца з такой умовай.

**– Ці ахвотна цяперашнія вучні вучацца беларускай мове?**

– Гэта залежыць ад набору вучняў. Бываюць гады, калі мы сапраўды маем шмат добрых вучняў, якія ахвотна і добра засвойваюць мову. Але бываюць гады, калі ў нас вялікі клопат. Наогул гэта гады, калі ў нас больш вучняў, якія пачынаюць вывучаць мову з нуля, чым тых, якія мелі ўрокі беларускай мовы ўжо ў пачатковай школе. І тады ўсім нам баліць галава – здадуць яны матуру [выпускны экзамен на атэстат сталасці. – РС] ці не. Такі, дарэчы, боль мы адчуваем якраз сёлета...

**– У вас ёсць нейкая палёгка для тых, якія пачынаюць вывучаць мову з нуля?**

– Не, мы маем праграму навучання аднолькавую на ўсіх, так што ніякай палёгкі не даем. Зразумела, мы арганізуем дадатковыя, добраахвотныя заняткі для тых, якія раней беларускай мовы не вывучалі або маюць праблемы з яе вывучэннем.

**– Тут яшчэ ёсць, відаць, праблема, якая не існавала ў наш вучнёўскі час. Да вас прыходзяць вучні, якія раней не сутыкаліся з кірыліцай, праўда? Як яны даюць сабе рады?**

– Так, ёсць такія. На самым пачатку мы маем некалькі ўрокаў, прысвечаных кірылічнай азбуцы. Але ўсяго толькі некалькі. Так што яны маюць праблемы з азбукай. Але гэтыя праблемы былі ўжо даўно. І ў пачатках маёй настаўніцкай працы ў ліцэі мне сустракаліся вучні, якія аддаваліся "радаснай творчасці", пішучы па-беларуску лацінкай...

**– Дарэчы, як ты ставішся да ідэі, каб перавесці навучанне беларускай мовы ў Польшчы на лацінку? Вучням не было б лягчэй?**

– Калі пытаеш пра мой асабісты погляд, то я думаю, што было б лягчэй. Але калі падумаем пра ўвесь комплекс праблемы – падручнікі, дапаможнікі, праграмы навучання, супрацоўніцтва з Беларуссю – то на сённяшні дзень такі пераход немагчымы.

**– Я быў у вашым ліцэі на сустрэчах з вучнямі некалькі разоў, і сам, і з жонкай. Калі я пытаўся, хто з іх яшчэ гаворыць з бацькамі ці дзядамі па-беларуску або пасвойму, то тых, якія гавораць, можна было палічыць на пальцах адной рукі. Мне здаецца, што ў Гайнаўцы мы ўжо страцілі сваю мову. Як ты, як жыхар Гайнаўкі, глядзіш на гэта?**

– Падобна было і 25 гадоў таму, калі я пачынаў працу ў ліцэі. Хоць тады, можна сказаць, у Гайнаўцы была большая група актыўных беларусаў, калі хочаш, "свядомых" беларусаў, якія выходзілі з ініцыятывай і прапановамі, каб нешта арганізаваць і ладзіць у беларускім жыцці горада. З таго часу мне запомніўся эпізод, калі нашы настаўнікі прыйшлі на працу і ўбачылі, што па ўсёй школе рассыпаныя лістоўкі-заклікі "Howory po swojomu, chuczej bude!". Гэта вучні зрабілі. Цяпер такіх акцый і ініцыятыў не хапае, але ў мяне ўсё ж няма праблем сабраць ахвотных, калі, прыкладам, арганізуем выезд на святкаванне Дня Волі ў Беласток ці на спектакль беларускага тэатра. Вучнёўская актыўнасць, як

мне здаецца, застаецца на тым самым узроўні, што і раней. Хоць агульнай беларускай актыўнасці ў Гайнаўцы паменела. Па-мойму, галоўная роля ў выхаванні беларускага пачуцця ў маладога чалавека ўсё ж у сям'і. Калі дзеці засвояць беларускасць змалку, то яна застаецца і надалей. А школа можа толькі гэтаму спрыяць. Як мне здаецца, у нас у школе вельмі прыхільная атмасфера для таго, каб вучні гаварылі ці то па-беларуску, ці то на падляшскай гаворцы.

**– А як ты і кіраўніцтва школы ставіцеся да падляшскіх гаворак, у арэале якіх знаходзіцца Гайнаўка? Вы падтрымліваеце гэтыя гаворкі ці забараняеце вучням карыстацца імі?**

– Ніхто не забараняе, а хутчэй наадварот. Кожная форма трымацца свайго вітаецца ў нашай школе з энтузіязмам. Калі гаварыць канкрэтна пра мяне, то я арганізую ўжо больш чым дваццаць гадоў конкурс "беларускай гавэнды", у якім рэгламент дапускае вучнёўскія выступы і на літаратурнай мове, і на гаворцы. Гэта маё канкрэтнае дзеянне, каб падтрымаць нашу мясцовую мову.

**– Я яшчэ хачу запытацца ў цябе пра тваю працу для стварэння падручнікаў па беларускай літаратуры для вучняў у Польшчы. Раскажы, калі ласка, крыху пра тое, што ты ўжо напісаў і выдаў, ды над чым працуеш цяпер...**

– Усё пачалося тады, калі Польшча збіралася ўступаць у Еўрасаюз [Польшча ўступіла ў ЕС 1 траўня 2004 года. – РС]. Там былі патрабаванні з Брусэля, каб краіны вялі адпаведную еўрапейскім стандартам палітыку ў адносінах да нацыянальных меншасцяў. Што тычыцца падручнікаў па беларускай мове, дык мы да таго часу карысталіся падручнікамі з Беларусі. І тады Міністэрства адукацыі ў Варшаве вырашыла выдаць свае падручнікі для беларусаў у Польшчы. Прадстаўнікі міністэрства прыехалі ў нашу школу, падбадзёрылі нас і намовілі напісаць такія падручнікі. І першы падручнік, аўтарства Вольгі Сянкевіч, выйшаў ужо ў 2002 годзе. Тады былі трохгадовыя ліцэі, і гэта быў падручнік для першага класа. Потым, у 2015 годзе, была мадыфікацыя навучальнай праграмы, і Вольга напісала іншы падручнік, якім мы карыстаемся і цяпер.

**– А што напісаў ты?**

– Я тады напісаў падручнік для трэцяга класа, і ён выйшаў у 2003 годзе. Выйшаў таксама новы падручнік па беларускай літаратуры для другога класа, яго напісала Яланта Грыгарук. Напісаныя раней падручнікі для першага і другога класа міністэрства зацвердзіла для карыстання і пасля апошняй рэформы школьнай сістэмы, калі ліцэі зноў сталі чатырохгадовымі. Але ўзнікла патрэба напісаць новыя падручнікі па беларускай літаратуры для трэцяга і чацвёртага класаў. Ну, то я напісаў новы падручнік для трэцяга класа. Цяпер працую над падручнікам для чацвёртага.

**– Каго з беларускіх пісьменнікаў ты ўзяў у падручнік для трэцяга класа ліцэя?**

– Падручнік па літаратуры для трэцяга класа ўключае перыяд ад вайны да 1980-х гадоў. З аўтараў там выступаюць Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Данута Бічэль-Загнетава, Ніна Мацяш, Яўгенія Янішчыц, Аляксей Дудараў. У самым пачатку ёсць раздзел "Па слядах нашых выдатных людзей, месцаў і падзей". Туды мы ўключылі тэксты аўтараў з Падляшша пра людзей з нашай зямлі, з Гайнаўшчыны і з Бельшчыны. Тэксты Дарафея Фіёніка пра Ярaслава Кастыцэвіча і айца Канстанціна Байко.

**– А сваіх пісьменнікаў з Падляшша ты пакуль не браў?**

– Не, яны будуць у падручніку для чацвёртага класа, які яшчэ на этапе планавання: Алесь Барскі, Сакрат Яновіч, Віктар Швед, Надзея Артымовіч, Міхал Андрасюк. З пісьменнікаў з Беларусі будуць Алесь Разанаў, Уладзімір Арлоў, Святлана Алексіевіч з "Чарнобыльскай малітвай", Уладзімір Някляеў, Барыс Пятровіч, Віктар Шніп, Ігар Бабкоў з "Хвілінкай". Будзе таксама эміграцыйная літаратура: Ларыса Геніюш, Наталля Арсеннева, Масей Сяднёў.

**– На заканчэнне такое пытанне: ці здараюцца ў вашым ліцэі вучні, якія пасля яго ідуць вучыцца на беларускую філалогію ў Варшаве?**

– На жаль, апошнім часам такое не здараецца. І неўзабаве могуць узнікнуць праблемы ў сувязі з гэтым. Некаторыя мае сяброўкі са студэнцкага часу, якія вучаць беларускай мове ў школах на Падляшшы, збіраюцца ўжо на пенсію. Адкуль узяць настаўнікаў беларускай мовы на іх месца? Бо маладых настаўнікаў няма.

Даведка з аддзялення асветы Ваяводскага ўпраўлення ў Беластоку

Згодна са станам на 1 сакавіка 2020 года, навучанне беларускай мове ў Падляшскім ваяводстве праводзілася ў 2 дзіцячых садках (145 дзяцей), 25 пачатковых школах (1996 вучняў) і 2 агульнаадукацыйных ліцэях (589 вучняў). Агульная колькасць навучэнцаў беларускай мовы ў ваяводстве – 2730.

**Ян Максімюк, svaboda.org**

**навіны**

# Дырэктар канала ў Беластоку: "Беларуская перадача на польскай тэлевізіі не закрываецца"

"У нас ніколі не было намеру скасаваць перадачу "Беларускі тыдзень". Перадача выходзіла ў эфір і будзе далей выходзіць. Я не ведаю, адкуль узяліся гэтыя fake news, але гэта абсалютная няпраўда", – сказаў "Радыё Свабода" 10 красавіка дырэктар беластоцкага цэнтра Польскай тэлевізіі Эўгеніюш Шпакоўскі.

Так дырэктар Шпакоўскі пракаментаваў "Свабодзе" паведамленні, што ў эфіры беластоцкага цэнтра Польскай тэлевізіі могуць у найбліжэйшы час не з'явіцца штотыднёвыя беларускія перадачы "Беларускі тыдзень".

Пра такую магчымасць паведаміў "Радыё Рацыя" на мінулых выходных журналіст Мікола Ваўранюк, які стварае перадачу "Беларускі тыдзень" і адначасова каардынуе вытворчасць тэлеперадач іншых нацыянальных меншасцяў у рэгіёне.

Цягам апошняга месяца, у сувязі з эпідэміяй каранавірусу, праца журналістаў беластоцкага тэлецэнтра была абмежаваная і "Беларускі тыдзень" не выходзіў. Перадача, змантажаваная наспех у іншым фармаце, з'явілася зноў 19 красавіка, але зрабіў яе не Мікола Ваўранюк, а іншыя журналісты.

Мы звязаліся з Міколам Ваўранюком, які сказаў нам, што пакуль ён не ведае, які будзе далейшы лёс перадачы "Беларускі тыдзень". Апошняе распараджэнне, якое ён атрымаў ад дырэкцыі беластоцкага цэнтра Польскай тэлевізіі, гаворыць пра тое, што вытворчасць перадачы "Беларускі тыдзень" выносіцца навонкі. Інакш кажучы, перадачы цяпер павінны ствараецца не ў тэлевізійнай студыі і не пры дапамозе абсталявання беларускага тэлевізійнага цэнтра, а прыватнай фірмай ці фірмамі.



Беларускі журналіст Мікола Ваўранюк.

Паводле Міколы Ваўранюка, такое распараджэнне практычна азначае спыненне перадачы ў яе цяперашняй форме, паколькі няма тэхнічных сродкаў, каб мантажаваць такую перадачу на належным узроўні па-за студыяй беластоцкай тэлевізіі.

Але дырэктар Шпакоўскі сёння запэўніў "Свабоду", што "Беларускі тыдзень" будзе выходзіць і ён далей хоча супрацоўнічаць з Міколам Ваўранюком:

"Мікола Ваўранюк можа вярнуцца рабіць перадачу ў любы момант. Толькі з увагі на пандэмію мы ўвялі некаторыя абмежаванні. Магчыма, калега [Ваўранюк] зразумеў нас не так. У кожным разе, не было ў гэтым нічога супраць спадара Ваўранюка ці самой перадачы".

Са свайго боку Мікола Ваўранюк сказаў "Свабодзе", што ён хоча рабіць перадачу ў ранейшым фармаце, пры выкарыстанні тэхнічнага патэнцыялу і магчымасцяў тэлецэнтра ў Беластоку.

На сігналы аб тым, што перадача "Беларускі тыдзень" можа прапасці з эфіру, зрэагавалі беларускія дзеячы ў Беластоку і палітыкі апазіцыі, якія звярнуліся да міністра культуры Польшчы з просьбай аб вытлумачэнні сітуацыі вакол беларускай перадачы.

"Ёсць людзі ў польскім асяроддзі, якія недалюбліваюць беларусаў, – сказаў "Свабодзе" прафесар Алег Латышонак з Беластока. – Магчыма, таксама, што нехта тут кепска прадумаў сітуацыю, паспрабаваўшы заашчадзіць грошы на беларускай перадачы. Але мы, як беларусы, не можам пагадзіцца на такую сітуацыю, якая ўзнікла ў сувязі з выхадам у эфір "Беларускага тыдня".

**Ян Максімюк, svaboda.org**

успаміны

# АЙЦЕЦ АЛЯКСАНДР НАДСАН І ДАПАМОГА АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ

6 красавіка 1986 года на чацвёртым энергаблоку Чарнобыльскай АЭС адбылася буйная аварыя. Больш за 70% радыеактыўнага пылу выпала на тэрыторыю Беларусі. Найбольш пацярпелі Гомельская і Магілёўская вобласці. У зоне высокай забруджанасці апынуліся больш за 2,2 млн чалавек, амаль пятая частка жыхароў Беларусі. Дапамогу пацярпелым ускладняла пазіцыя цэнтральных і рэспубліканскіх савецкіх уладаў. Інфармацыя захоўвалася ў строгай тайне ад грамадства.

Адным з першых, хто ўсвядоміў памеры катастрофы і яе наступстваў і небяспекі для жыхароў Беларусі, быў беларускі пісьменнік і публіцыст Алесь Адамовіч. Ён пісаў: *“У гісторыі нашай XX стагоддзя былі тры пагрозы генацыду: сталінскі, гітлераўскі, а цяпер вось – ядзерна-чарнобыльскі. Перад сталінскім мы былі разгубленыя. Не верылі, што “свае” гэта могуць. Таму і цела, і душа была растаптана. Перад гітлераўскім мы аб’ядналіся, і хоць цярпелі страты, але душу зберагалі. І вось цяпер: супраць чарнобыльскага атама і той сістэмы, якая стала сімвалам яе – камуністычнай. І аб’яднаць нас супраць “атама” можа толькі маналітнае супрацьстаянне сістэме. Толькі пазбавіўшыся ад яе, мы выжывем”.*

І той арганізацыяй, якая спрабавала супрацьстаяць сістэме, стаў Беларускі народны фронт “Адраджэнне”. БНФ праводзіў чарнобыльскія і экалагічныя акцыі, мітынгі, паездкі ў забруджаныя раёны, жалобныя набажэнствы, распаўсюджвалася праўдзівая інфармацыя аб выніках Чарнобыльскай катастрофы.

30 верасня 1989 года ў Мінску адбыліся народнае шэсце і мітынг “Чарнобыльскі шлях”. Пасля шэсце пачало праводзіцца кожны год у дзень выбуху на атамнай станцыі – 26 красавіка. У Беларусі, як адзначаў А. Надсан, з’явілася новая “Памятка дзён”, якая чорнай хмарай вісіць над усёй нашай краінай. Імя гэтай “Памяткі” – Чарнобыль.

У красавіку 1998 года быў створаны Камітэт БНФ “Дзеці Чарнобыля” (старшыня Генадзь Грушавы), а праз два гады быў афіцыйна зарэгістраваны Беларускі дабрачынны фонд “Дзецям Чарнобыля”. Былі зроблены звароты да міжнароднай супольнасці і ў краінах пачалі стварацца грамадскія арганізацыі дапамогі пацярпелым рэгіёнам.

У 1989 годзе ў Лондане з ініцыятывы айца Аляксандра Надсана пры Беларускай каталіцкай місіі быў арганізаваны Беларускі камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі – Byelorusisan Radiation Relief Appeal. Для збору сродкаў выкарыстоўваўся Фонд беларускай місіі (Byelorussian Mission Trust, Charity Reg. No 295752). У склад Камітэту ўвайшлі сябры ЗБВБ і Англа-беларускага таварыства, у тым ліку Джым Дынглі (сакратар), Янка Міхалюк, Вера Рыч, Павал Асіповіч, Міхась Баяроўскі і іншыя. Старшынёй камітэту быў абраны айцец Аляксандр Надсан. Камітэт меў сваіх прадстаўнікоў у ЗША (айцец Язэп Сіру, настаяцель царквы Хрыста Збавіцеля ў Чыкага), у Канадзе (Раіса Жук-Грышкевіч), у Аўстраліі (Міхась Лужынскі) і ў Францыі (Міхась Наўмовіч).

Неабходнасць стварэння камітэту а. Аляксандр адзначыў у сваім артыкуле “Наш боль... Наш доўг...”, які бы надрукаваны ў “Весніку Беларускага Каталіцкага Душпастырства”, а таксама ў выглядзе асобных улётак на беларускай, англійскай і французскай мовах ад 12 лістапада 1989 года.


Марыя Міцкевіч і а.Аляксандр Надсан.

Вось некаторыя вытрымкі з гэтага артыкула: *“На долю беларусаў выпала шмат цяжкіх выпрабаванняў. Колькі разоў, здавалася, яны стаялі на краі згубы. Тое, што, нягледзячы на ўсё, яны выжылі, сведчыць аб вялікай духоўнай сіле нашага народу. Крыніцу гэтай сілы напэўна трэба шукаць у глыбокіх каранях, якімі беларусы звязаны са сваёй роднай зямлёй, аб якой так хораша напісаў Якуб Колас:*

*Зямля не зменіць і не здрадзіць*
*Зямля паможа і дарадзіць,*
*Зямля дасць волі, дасць і сілы,*
*Зямля паслужыць да магілы,*
*Зямля дзяцей сваіх не кіне,*
*Зямля – аснова ўсёй айчыне.*

*Што б сказаў паэта, калі б ён жыў сёння?.. Зямля не здрадзіла. З ёй сталася няшчасце, яе знявечылі, імя гэтага няшчасця – Чарнобыль...”*

Адной з галоўных формаў дзейнасці камітэту сталі збор сродкаў, набыццё і дастаўка ў Беларусь неабходных лекаў і лекарскіх прылад, арганізацыя сувязі са шпіталямі і пацярпелымі рэгіёнамі.

Водгук на заклік у справе Чарнобыля быў вельмі добры. Ужо ў студзені 1990 года на рахунку было каля 5000 фунтаў. Першы раз з гуманітарнай дапамогай айцец А. Надсан прыехаў на Беларусь у сакавіку 1990 года. Галоўнай мэтай было пазнаёміцца з дактарамі, наведаць медыцынскія ўстановы, атрымаць спісы неабходных лекаў, пабачыць на ўласныя вочы становішча пасля Чарнобыльскай катастрофы. Паколькі айцец Аляксандр ехаў цягнікам, гуманітарны груз быў невялікі: 6 пакетаў лекарскіх прылад (3000 шпрыцаў аднаразовага карыстання, 100 прыбораў для пералівання крыві, на агульную суму 268 ангельскіх фунтаў, дадаткова 16 пачак мультывітамінаў. Лекі былі перададзены ў 1-ую клінічную бальніцу (гематалагічнае аддзяленне) і ў НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі. Сустрэчы ў шпіталях дапамагалі арганізаваць прадстаўнікі БНФ “Адраджэнне”. А. Надсан пазнаёміўся з Вольгай Алейнікавай (дзіцячы рэспубліканскі гематалагічны цэнтр), з доктарам Віталём Паўленкам (дзіцячая анкалогія, Бараўляны), размаўляў з хворымі дзецьмі, з медыцынскім персаналам у шпіталях, атрымаў спісы неабходных лекаў і лекарскіх прылад.

Пасля вяртання ў Вялікабрытанію інфармацыя пра Чарнобыльскую трагедыю і працу Камітэта дапамогі ахвярам радыяцыі прагучала па тэлебачанні ў Лондане, адпаведныя матэрыялы былі надрукаваны ў шэрагу часопісаў і газет, як “The Sunday Times”, “Hendon and Finchley Times”, “The Tablet”, “New Scientisn”, “Nursery World”, “Catholic Family”.

Сярод публікацый адзначым артыкулы, якія былі падрыхтаваныя сябрам Камітэта дапамогі ахвярам радыяцыі брытанскай журналісткай Верай Рыч: Vera Rich “Concern grows over health of Chernobyl children” (“New Scientist”, 21 april 1990), Walter Ellis, Vera Rich, James Blits “The Truth about Chernobyl” (“The Sunday Times”, 29 april 1990). У публікацыях былі змешчаны здымкі, якія былі зроблены ў гематалагічным цэнтры і НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі. Артыкул пра візіт айца А. Надсана і яго здымак у гематалагічным цэнтры былі надрукаваны і ў Беларусі ў тыднёвіку ЛіМ (30.III.1990).

Інфармацыйная дзейнасць Камітэту спрыяла збору ахвяраванняў, і ўжо на 26 мая 1990 года было сабрана 11 609,60 ангельскіх фунтаў.

Сярод ахвярадаўцаў сустракаюцца грамадскія арганізацыі і прыватныя асобы. Першымі былі Англа-беларускае Таварыства, Згуртаванне беларусаў Вялікай Брытаніі, Беларуская каталіцкая місія, Беларуская каталіцкая царква Пятра і Паўла, Праваслаўная царква Св. Ефрасінні ў Лондане. Сярод прыватных асоб выступалі і самі сябры Камітэту: Аляксандр Надсан, Раіса Жук-Грышкевіч, Вера Рыч, Міхась Наўмовіч і інш. 3560 фунтаў сабраў сябра Камітэту Міхась Баяроўскі ў сваім асяроддзі. Сярод першых ахвярадаўцаў былі вядомыя дзеячы беларускага замежжа Янка Запруднік (ЗША), Нікадзім Жызнеўскі (ЗША), Лявон Шыманец (Францыя), Свецік Каржанеўскі (Аўстралія) і многія іншыя.

Пачалася падрыхтоўка да першага транспарту ў Беларусь. Камітэт усталяваў кантакты з кампаніяй, якая займалася пастаўкай медыцынскага абсталявання і лекаў за межы Вялікабрытаніі – ECHO (Equipment to Charity Hospitals Overseas). Кампанія падбірала лекі згодна замовам, прапаноўвала лекі і абсталяванне па нізкім кошце, пакавала і вырабляла інвойсы для мытні па існуючых патрабаваннях.

24 ліпеня 1990 года з Лондана ў Беларусь адправіўся першы транспарт ад Камітэту дапамогі ахвярам радыяцыі – 1,5 тоны медыкаментаў, які суправаджалі а. Аляксандр Надсан, Міхась Баяроўскі і былы вучань школы-інтэрнату імя Кірылы Тураўскага Эдвард Уолш. Запрашэнне было падпісана Саюзам кінематаграфістаў БССР і камітэтам "Дзеці Чарнобыля". Вялікая колькасць медыцынскага абсталявання на суму 27 267,46 фунтаў было атрымана ад айца Патрыка Махоні (Patrick O'Mahony), прыхода царквы Божай Маці з Саліхула. Айцец Патрык быў добра вядомы за сваю дабрачынную дзейнасць у краінах трэцяга свету. Акрамя таго, у кампаніі ECHO былі закуплены вітаміны і шпрыцы на суму 926,90 фунтаў і прэпараты супраць лейкеміі на суму 3475,74 фунтаў, такім чынам агульны кошт гуманітарнага грузу быў 31670,10 фунтаў (не ўлічаны транспартныя выдаткі, паліва, паром).

Разам з айцом Янам Матусевічам сябры Камітэта наведалі чарнобыльскія рэгіёны, пабывалі ў шпіталях Гомеля і Хойнікаў. Інфармацыя аб падарожжы нават трапіла ў часопіс "За безопасность движения", № 12, 1990 год.



Лекі былі размеркаваны ў Мінскі гематалагічны цэнтр, НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі, шпіталі Гомеля і Хойнікаў.

Арганізацыю далейшых транспартаў з лекамі і суправаджэнне дабрачыннага грузу ўзяў на сябе айцец Аляксандр Надсан, які таксама фінансаваў выдаткі на паліва, страхаванне і арэнду аўтамабіляў.

Наступны транспарт адправіўся ў Беларусь у снежні 1990 года. Разам з айцом А. Надсанам груз суправаджалі Е. Міхалюк і В. Мартынчык. Агульны кошт па інвойсе 10971,96 ангельскіх фунтаў. У Бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане захаваліся справаздачы аб атрыманні лекаў і абсталявання, якія падпісаны дактарамі В. Алейнікавай (Мінск, Рэспубліканскі гематалагічны цэнтр), А. Тарасевічам (Хойніцкая цэнтральная раённая бальніца) і доктарам Шуміхінай (Гомельская бальніца). Груз таксама ўключаў калядныя падарункі дзецям, якія раздаваліся ў шпіталях.

Чацвёрты транспарт з лекамі па запрашэнні Беларускага народнага фронту "Адраджэнне" быў накіраваны ў Беларусь у траўні 1991 года, агульны кошт 13.523,74 ангельскіх фунтаў.

Камітэт выпускаў інфармацыйныя матэрыялы і ўлёткі на англійскай і французскай мовах, у 1990–1994 гадах выдаваўся інфармацыйны бюлетэнь "Chernobyl in Byelorussia". Прадаўжаліся і публікацыі Веры Рыч ва ўплывовых брытанскіх выданнях; "Treft of Chernobyl Data" ("The Lancet", Sept. 22, 1990); "The Forgotten Children of Chernobyl" ("Nurcery World", Dec. 13, 1990); "Bielarus Political Fallout from Chernobyl" ("The Lancet", Feb. 22, 1992).

**Марыя Міцкевіч,**
**старшыня ГА "Дзіцячы фонд духоўнага і культурнага адраджэння "САКАВІК",**
**сябра Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"**

**Працяг артыкула чытайце на сайце zbsb.org**

**in memoriam**

# ПАМЕРЛА ПАЎЛІНА СУРВІЛЛА

На 57-м годзе жыцця ад цяжкай хваробы памерла Паўліна Сурвілла, прафесар амерыканскага Wartburg College (штат Аёва), выканаўчы дырэктар Цэнтра беларускіх даследаванняў у Канзасе, сябра Рады БНР.

Паўліна (поўнае імя – Паўліна Марыя) Сурвілла нарадзілася 2 лютага 1964 г. у Мадрыдзе, дзе ў той час яе бацькі – Івонка Сурвілла (Шыманец) і Янка Сурвілла рабілі беларускія праграмы на Іспанскім радыё. Была другім дзіцём у сям'і (яе сястра Ганя на тры гады старэйшая). "Яны з самага маленства прысутнічалі ўсюды, дзе штосьці беларускае рабілася", – прыгадвала пазней пра сваіх дзяцей у інтэрв'ю "Радыё Свабода" старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла.

Паўліна служыла ў якасці музыкі ў канадскім войску, скончыла ўніверсітэт, магістарскую працу пісала пра беларускую дыяспару. Абараніла доктарскую дысертацыю. Апошнія гады была прафесарам Вартбурскага каледжа (штат Аёва) і вывучала праблемы фармавання нацыянальнай ідэнтычнасці ў постсавецкай Беларусі. Аўтар навуковых прац і кніг, прысвечаных беларускай музыцы, адна з іх – "Пра русалак і рок-спевакоў" – прысвечаная сучасным выканаўцам.

З'яўляецца Выканаўчым дырэктарам створанага ў 2007 віцэ-прэзідэнтам Паўднёва-заходняга каледжа Джэймсам Шэпардам і першым амбасадарам ЗША ў Беларусі Дэвідам Суорцам Цэнтра беларускіх даследаванняў у Канзасе (ЗША), першай акадэмічнай установы ў ЗША, якая займаецца вывучэннем выключна Беларусі. Пры спрыянні Цэнтра некалькі беларускіх навукоўцаў прайшлі стажыроўкі ў ЗША. Паўліне Сурвілле ўдалося прыцягнуць да супрацоўніцтва многіх вядомых асоб, у тым ліку і з Беларусі, як, напрыклад, былога старшыню Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча. "Радыё Свабода" была медыйным партнёрам Цэнтра.

Паўліна Сурвілла арганізавала дзясяткі навуковых канферэнцый, семінараў, лекцый, прысвечаных гісторыі і сучаснасці Беларусі, а таксама – яе будучыні. Паўліна заахвочвала навукоўцаў, палітыкаў, творцаў дапамагаць Беларусі рабіцца дэмакратычнай сучаснай краінай.

Паўліну Сурвіллу звязвала сяброўства з "Радыё Свабода", яна ўдзельнічала ў нашых перадачах. 31 снежня 2010 года Паўліна Сурвілла зачытала на хвалях "Свабоды" імёны арыштаваных (сярод тых, хто чытаў імёны, былі Вацлаў Гавэл, Алена Бонэр, а. Аляксандар Надсан, Джордж Буш-малодшы, Барыс Кіт, Фрэнсіс Фукуяма, Станіслаў Шушкевіч, Барыс Стругацкі, Сяргей Юрскі ды іншыя).

Паўліна Сурвілла была сябрам Рады БНР і шмат рабіла для аб'яднання беларускай дыяспары на паўночна-амерыканскім кантыненце.



"Мне здаецца, найважней – гэта мець энергію беларускасці, – казала яна ў інтэрв'ю "Радыё Свабода". – Калі ўсе беларусы адчуваюць важнасць незалежнай ідэнтычнасці. Гэта значыць мець спосаб адчуваць беларускасць без такога кантэксту, што "трэба баяцца". Можна праз гэтую энергію змяніць крышачку гэты "космас беларускі", які цяпер, мне здаецца, вельмі сур'ёзны і вельмі цяжкі.

Вельмі-вельмі жадаю, каб усё, што людзі перажылі і перажываюць, прадукавала ўрэшце пазітыўны момант для краіны і для гэтых людзей. І што гэты год дасць новае адраджэнне для гэтай краіны. Таму што гэтая краіна зашмат перажыла ў гісторыі. Проста трэба, каб новы момант уявіўся. Жадаю, каб усе жылі ў мадэрным свеце, каб усе ведалі, што гэта значыць быць часткай сусветнага грамадзянства. Для мяне гэта найбольшае пажаданне".

У Паўліны Сурвіллы застаўся муж Эрык, прафесар музыкі, і два сыны 20 і 22 гадоў, Антон і Валік.

**Паводле Сяргея Навумчыка, svaboda.org**

ЗБС"Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні старшыні Рады БНР Івонцы Сурвілле, а таксама ўсім родным і блізкім спадарыні Паўліны Сурвіллы, усім, хто яе ведаў. Мы смуткуем разам з вамі.

in memoriam

# У ЛЕПШЫ СВЕТ АДЫШЛА ІРЭНА КАЛЯДА-СМІРНОВА (24.07.1937–14.04.2020)

Сумная вестка з Кліўленда (ЗША) на нейкае імгненне зацьміла нават жах і боль, выкліканыя трывожнымі падзеямі, якія Беларусь зараз перажывае разам з усім светам.

Не стала Ірэны Каляды-Смірновай, адной з тых людзей, чые імёны прынята згадваць дробнымі літарамі ў някідкіх радках з падзякамі за спрыянне і дапамогу. Што праўда, з'яўленне ў такой зацемцы прозвішча спадарыні Ірэны або назвы дабрачыннага фонду "Ethnic voice of America", якім яна кіравала, звычайна азначала, што без гэтай дапамогі такі надпіс папросту б не было на чым пакінуць. Сабраць поўную калекцыю кніг (мастацкіх, перакладных, метадычных) і музычных запісаў, выдадзеных з удзелам Ірэны Каляды-Смірновай, бадай што немагчыма, бо на нейкім этапе згубіўся сэнс весці іх падлік.

Але мецэнацтвам і падтрымкай беларускай культуры дзейнасць спадарыні Ірэны не абмяжоўвалася, таму вялікая колькасць беларусаў носіць словы падзякі да яе ў сваіх сэрцах. І ўжо тыя літары, што на сэрцах, ззяюць золатам. Арганізацыя аздараўленчага адпачынку ў краінах Еўропы для дзясяткаў тысяч беларускіх дзяцей, якія пацярпелі ад Чарнобыльскай катастрофы, для сірот і малазабяспечаных. Адрасная дапамога асобным сем'ям, цяжкахворым дзецям і дзіцячым дамам. Арганізацыя паставак медыкаментаў і рэчаў для бальніц. Хто ведае, колькі беларусаў нават не здагадваюцца пра ўдзел Ірэны Каляды-Смірновай у сваім лёсе?

Што да лёсу самой спадарыні Ірэны, якая нарадзілася ў вёсцы Падкасоўе Навагрудскага раёна, то ён хаця



і быў у агульных рысах падобны да лёсу паваенных беларускіх эмігрантаў, усё ж меў і адметныя драматычныя старонкі. Ранняя смерць бацькі ад сухотаў у 1937-м, канфіскацыя маёмасці ў маці, Клаўдзіі Каляды, у 1939-м. Вайна, якую маленькая Ірэна заспела чатырохгадовай. У 1944-м яна трапіла разам з маці ў Нямеччыну, у працоўныя лагеры. Там яе маці, скарыстаўшыся тым, што на момант вызвалення апынулася ў амерыканскім сектары, і не маючы сумневу, што па вяртанні на Радзіму не ўдасца абмінуць пакарання Сібір'ю, прыняла рашэнне выехаць ў Кліўленд. На эміграцыі яна стала адной з найбольш заўважных актывістак беларускай дыяспары. Сама ж Ірэна, ахвяраваўшы марай пра артыстычную кар'еру, працавала эканамістам.

Прыехаўшы ў Беларусь у 1992 годзе, Ірэна Каляда хутка асіліла шок ад эканамічнага становішча краіны і наступстваў Чарнобыльскай трагедыі. Але да канца жыцця баялася не вытрымаць убачыць, як губляецца беларускасць у самой Беларусі.

Супраца Ірэны Каляды-Смірновай з ЗБС "Бацькаўшчына" доўжылася больш за дваццаць гадоў. Пры падтрымцы фонду "Ethnic voice of America" Згуртаванне арганізавала аздараўленчы адпачынак для больш як тысячы дзяцей, выдала шмат выпускаў "Бібліятэкі Бацькаўшчыны" (у тым ліку дакументальную біяграфію Быкава і дзённікі Барадуліна), змагло арганізаваць падтрымку маладых талентаў. У найбольш складаныя для Згуртавання часы яна была фактычна адзіным мецэнатам.

Падвойнае прозвішча гэтай жанчыны як быццам тлумачыла, як ёй стае часу і моцы, каб дапамагаць адразу абедзвюм Бацькаўшчынам – Радзіме і аднайменнаму Згуртаванню, рабіць тое, што не пад сілу аднаму чалавеку. Але не да канца. Бо залатыя літары носяць на сэрцы таксама і амерыканскія дзеці і бацькі, якія зведалі яе падтрымку, а яшчэ ахвяры катастрофы ў Новым Арлеане. І хто ведае, колькі яшчэ людзей.

"Таму што мяне выхавала так мама... Бог даў мне такую магчымасць, я павінна дзяліцца з людзьмі".

Сёння беларусы, як і дзясяткі гадоў таму, паміраюць ад маладаследаванай хваробы, у красавіцкіх зводках навін, як і тады, фігуруе Чарнобыль. І толькі горкая навіна з Кліўленда пра тое, што цяпер давядзецца змагацца без спадарыні Ірэны сведчыць пра тое, што беларуская гісторыя не спыніла рух.

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні ўсім родным і блізкім спадарыні Ірэны Каляды-Смірновай.

**Інфармацыйны цэнтр „ЗБС „Бацькаўшчына"**

# ПАЙШОЎ З ЖЫЦЦЯ ПЯТРУСЬ КАПЧЫК

4 траўня пайшоў з жыцця сябра Рады "Бацькаўшчыны" Пятрусь Капчык (Украіна). Пра гэта, а таксама пра тое, што апошнім часам спадар Пятрусь моцна хварэў, паведаміў сябра Рады Віктар Камісарук. У красавіку Петрусю Капчыку споўнілася 76 гадоў.

Пісьменнік, журналіст і перакладчык Пятрусь Капчык быў актыўным сябрам ЗБС "Бацькаўшчына" і браў удзел ва ўсіх З'ездах беларусаў свету, пачынаючы ад самага першага. Акрамя гэтага рэгулярна браў удзел у Фестывалях мастацтваў беларусаў свету, З'ездах беларусаў Украіны і іншых важных мерапрыемствах, скіраваных на захаванне і развіццё беларускай культуры ва Украіне.

На пачатку 2000-х Пятрусь Капчык уваходзіў у арганізацыйны камітэт па стварэнні Усеўкраінскага саюза беларусаў. Ад 1985 года нязменна ўзначальваў суполку беларускай культуры "Зорка Венера" ў Ізяславе (Украіна).

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні сваякам і блізкім Петруся Капчыка, а таксама ўсім, хто яго ведаў.

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**



## Беларускі каляндар памятных дат на май 2020 года

**1 мая**
- 105 гадоў таму, у 1915-м, нарадзіўся Іван Любачка, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1977-м.

**4 мая**
- 235 гадоў таму, у 1785-м, нарадзіўся Міхаіл Палінскі-Пэлка, матэматык. Памёр у 1848-м.

**5 мая**
- 110 гадоў таму, у 1910-м, нарадзіўся Апанас Цыхун, пісьменнік. Памёр у 2005-м.

**6 мая**
- 115 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Юрка Гаўрук, паэт. Памёр у 1979-м.

**8 мая**
- 75 гадоў таму, у 1945-м, скончылася Другая сусветная вайна ў Еўропе.
- 15 гадоў таму, у 2005-м, памёр Пятро Драчоў, мастак.

**9 мая**
- 65 гадоў таму, у 1955-м, нарадзіўся Уладзімір Емяльянчык, гісторык, паэт. Памёр у 2003-м.

**13 мая**
- 180 гадоў таму, у 1840-м, нарадзіўся Цітус Далеўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. Расстраляны ў 1863-м.
- 150 гадоў таму, у 1870-м, нарадзіўся Аляксандр Турчыновіч, гісторык. Прапаў без вестак пасля 1917-га.
- 125 гадоў таму, у 1895-м, нарадзіўся Уладзіслаў Паўлюкоўскі, паэт, празаік, этнограф, мастак. Памёр у 1955-м.

**15 мая**
- 175 гадоў таму, у 2020-м, нарадзіўся Іван Чэрскі, географ. Памёр у 1892-м.

**17 мая**
- 175 гадоў таму, у 1845-м, нарадзіўся Мікалай Нікіфароўскі, этнограф. Памёр у 1910-м.

**20 мая**
- 55 гадоў таму, у 1965-м, памёр Антон Жэбрак, генэтык.

**22 мая**
- 120 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Мікалай Каспяровіч, мастацтвазнавец. Расстраляны ў 1937-м.

**24 мая**
- 90 гадоў таму, у 1930-м, нарадзілася Галіна Русак (дзявоч. Родзька), мастачка, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Памерла ў 2000-м.

**25 мая**
- 115 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Сяргей Хмара (сапр. Сіняк), пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Канадзе. Памёр у 1992-м.

**27 мая**
- 185 гадоў таму, у 1835-м, нарадзіўся Антон Трусаў, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. Памёр каля 1886-га.
- 120 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Уладзімір Жылка, паэт. Памёр у 1933-м.

**29 мая**
- 100 гадоў таму, у 1920-м, расстраляны Фабіян Шантыр, дзяржаўны дзеяч, пісьменнік.
- 50 гадоў таму, у 1970-м, памёр Мікола Абрамчык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Францыі, прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі (1947–1970).

**Беларусы ў свеце**
№ 4 (215), красавік 2020

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацёнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27